# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (749) ГОД XV БЕЛАСТОК 5 ЛІПЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## Яшчэ адзін...

Конкурсы, конкурсы, конкурсы...

Конкурс на найлепшую песню, дэкламатарскі, драматычных гурткоў, конкурс ведаў аб Леніне, па гісторыі Беларусі і яшчэ шмат-шмат іншых конкурсаў.

Засцерагаюся адразу: я не супроць конкурсаў. Я — за. Я за тое, каб конкурсы былі цікавыя, карысныя і прыемныя для ўсіх. І каб конкурсы абавязкова былі добра прадуманыя і падрыхтаваныя.

Вядома ж, што ўдзельнікі конкурсаў доўга і старанна рыхтуюцца, перажываюць, каб выступіць як найлепш. З'язджаюцца на конкурс, выступаюць, аднак потым не заўсёды раз'язджаюцца задаволеныя, з прыемнымі ўспамінамі.

Вось для прыкладу нядаўні конкурс. Быў гэта IX міжшкольны беларускі дэкламатарскі конкурс. Але першы раз асобна для наймалодшых дзяцей — вучняў 1—4 класаў. Сабраліся дзеці з II школ Беластоцкага павета ў Беласток.

І вось гэтыя васьмі-адзінаццацігадовыя дзеці дрыжаць перад камісіяй, часам забываюцца нават уласнае прозвішча, але калі пачынаюць дэкламаваць, голас мацнее, і ў зале выразна гучаць беларускія вершы аб міры, аб Леніне, аб родным народзе і краіне, аб Варшаве, сваёй вёсцы і школе.

І ўсе мы, настаўнікі і камісія, цешымся, што добрая расце змена ў нас, што не забудуць яны сваёй роднай мовы, што панясуць яны далей, як эс-

Працяг на стар. 4



*«Беларуская песня 1970». Дуэт з Бельска: Ніна Філіманюк і Валянціна Паўлючук. II месца.* *Фота Цаф — Сянько*

## Пяцігодка бельскай культуры

Планаванне ў галіне культуры, безумоўна, значна цяжэйшае, чымсьці планаванне ў іншых галінах жыцця. Але, каб культура магла развівацца правідлова, планаванне такое неабходнае. У Бельскім павеце, так як і ў іншых паветах, у пачатку гэтай пяцігодкі (1966—1970) апрацаваны план развіцця культуры павета. Варта прыгледзецца бліжэй рэалізацыі.

Хаця культура — гэта перш за ўсё людзі, іх песня, мастацтва, друкаванае слова, кніжка і газета, аднак развіццё культуры патрабуе таксама адпаведнай матэрыяльнай базы. Патрабуе святліц, клубаў, дамоў культуры — словам месца, дзе б людзі маглі збірацца пасля працы, каб заняцца культурным адпачынкам. У пяцігодцы пабудавана ў Бельскім павеце 3 дамы культуры — у Крывяцічах, Патоках і Спешыне, ды адрамантавана 7 святліц. Адначасова распачалася будова дома культуры ў Гацьках. Улады паклапаціліся таксама аб вясковых бібліятэках, змяняючы ў шэрагу выпадкаў займаныя імі памяшканні на лепшыя. Новае памяшканне — прыгожае, прасторнае і эстэтычнае — атрымала таксама гарадская бібліятэка ў Бельску.

Трэба прызнацца, што сродкі, якія ўлады маюць на пабудову дамоў культуры, невялікія. Таму вялікае значэнне мае тут праца грамадскім чынам і ініцыятыва сялян у пабудове аб'ектаў культуры. На жаль, да ініцыятыў такіх не заахвочваюць сялян існуючыя правілы, згодна з якімі, дамы культуры будавацца павінны паводле існуючых тыповых праектаў, якія з'яўляюцца будовамі задарагімі як на магчымасці нашых сялян. Агульна беручы, на будову і рамонты аб'ектаў культуры Бельскага павета рады нарадовыя выдаткавалі 785 тысяч злотых, а вартасць работ грамадскім чынам пры гэтых аб'ектах дасягнула сумы 593 тысяч злотых.

Ва ўсім Бельскім павеце дзейнічае каля 60 рознага тыпу цэнтраў культурнага жыцця. 40 з іх мае тэлевізары. Агулам на закуп тэлевізараў асяродкам культурнага жыцця Бельскага павета выдадзена ў гэтай пяцігодцы 250 тысяч злотых. Кожная святліца ці клуб зараз жа пасля свайго заснавання імкнецца як мага хутчэй набыць тэлевізар. Тэлевізар становіцца галоўнай формай клубнага жыцця вёскі.

Змяняе гэта зусім традыцыйныя формы працы вясковых клубаў і святліц, дзе асноўную ролю раней адыгрывала

Працяг на стар. 4

### Сустрэчы з „Нівай"

## Сухінічы хочуць падыскутаваць з Ігнатовічам

Пахілены, як стары крыж, тэлефонны слуп каля дарогі з Бабікоў у Сухінічы бездапаможна тырчэў у жвіровай раскопцы. Гэты слуп потым стаў для мяне знакам абыякавасці мясцовай улады да людзей і мясцовых людзей да той жа ўлады.

У сухініцкім клубе сабраліся гаспадары. Больш шумныя з іх адразу замахалі рукамі на Бабікаўскую грамадскую раду, асабліва на яе агранамічную службу. Пачалося ад ячменю: нейкаму гаспадару ўперлі парослы ячмень добрага гатунку, іншаму гаспадару ўсунулі мяшок пшаніцы напалову з ячменем ці з аўсом. Усё гэта здарылася на сакольскім складзе збожжа, на тым складзе, дзе магазіншчыкам працуе паночкавы чалавек з вялікім горлам на людзей з вёскі. Шумлівых гаспадароў спрабавалі закрычаць другія гаспадары, якіх не напаткаў такі брыдкі лёс. Ім грамадская рада ў Бабіках добрая. І панок у павятовай Саколцы таксама добры ім.

Няма сэнсу разважаць над тым, хто з іх мае рацыю, а хто гэтай рацыі не мае. Істотнае тое, што ніхто з сухініцкіх людзей не памятае, каб кіраўніцтва грамадскай рады ў Бабіках пацікавілася Сухінічамі, каб прыехала да іх на сустрэчу з гаспадарамі, у клубе. Ні старшыня Пац (родам з Гаркавіч), ні сакратар Ігнатовіч. Не выяснілі, не пацікавіліся, што гэта за ліха дзеецца ў тым магазіне-складзе ў Саколцы?

Ведаю, што скажуць яны на гэта... Скажуць: пане, часу няма, столькі работы! па вушы! папера за папераю прыходзіць з Саколкі, а папера — рэч найважнейшая! гаспадар павінен сам сябе пільнаваць...

Яно, вядома, так: гаспадар павінен сам сябе пільнаваць. Але, ці хто падумаў аб тым, што чым больш папераў у грамадскай радзе, тым больш іх таксама і ў кожнага гаспадара. Гаспадар Дабрэнка сказаў: во, хоць адзін «ужэнднік» абышоўся са мною, як праўдзівы апякун хлебароба, Яновіч з Крынак, з ГС-у, які не толькі дзе трэба выясніў маю блытаніцу з кантрактацыяй у гэзсе, але нават напісаў да мяне пісьмо аб тым, дзе маю падпісацца, у якім месцы падпісацца.

Яновічавае пісьмо, фактычна ў дробнай справе, узрушыла гаспадара, прывыклага да таго, што ён ніколі не мае рацыі.

На гаспадарскім сходзе ў Сухінічах быў мясцовы чалавек, Курыловіч, старшыня Мінкаўскай грамадскай рады, суседняй. Ён узяў слова і некаторыя справы растлумачыў. Не ведаю, як каму, але мне, журналісту «Нівы», спадабалася тое, што Курыловіч не маўчаў. А пры ім і мясцовыя радныя таксама загаварылі. Усё гэта можа не было б вартым нават і ўспаміну, калі б не той факт, што было гэта амаль першай дыскусіяй ад многіх год. У Бабі-

Працяг на стар. 4



*Рака Нараўка.* *Фота Ул. Паўлючук*

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### СЕСІЯ Ў САН-ФРАНЦЫСКА

26 чэрвеня г.г. у Сан-Францыска ў памяшканні тутэйшай оперы, у якой 25 год таму назад дзяржавы — стваральнікі ААН падпісалі Карту Аб'яднаных Нацый, адбыліся ўрачыстасці, звязаныя з гэтай гадавінай. Асноўнай думкай урачыстасці былі справы ўмацавання міру, бяспекі ў свеце і пастаяннага пашырэння міжнароднага супрацоўніцтва.

Цэнтральным пунктам святкаванняў была ўрачыстая сесія, на якой прысутнічалі Генеральны сакратар ААН У Тан, паслы 126 краін — удзельніц ААН, прадстаўнікі спецыялістычных агенцтваў ААН, а таксама перадавыя палітыкі і дзеячы, якія прымалі ўдзел у першай сесіі Генеральнай Асамблеі і ў працы над падрыхтоўкай Карты Аб'яднаных Нацый.

На ўрачыстым прыёме забраў голас У Тан, які злажыў пажаданні свету і сям'і Аб'яднаных Нацый.

*«З нагоды 25-ай гадавіны падпісання Карты жадаю людзям, каб наступіў канец усялякіх забойстваў, якія адбываюцца з расавых, ідэалагічных, нацыяналістычных ці рэлігійных прычын. Каб зразуменне і цярплівасць сталіся компасам у паводзінах народаў. Каб народы супрацоўнічалі ў імя міру, справядлівасці і сусветнага эканамічнага працвітання. Каб прагрэс у навуцы, тэхніцы і эканоміцы знайшоў сваё адлюстраванне ў прагрэсе сусветнай справядлівасці і маралі. Каб кіраўнікі народаў знайшлі дарогу для паразуменняў і супольнага дзеяння для дабра ўсяго чалавецтва».*

### КАНСТРУКТЫЎНЫЯ ПРАПАНОВЫ

Канферэнцыя міністраў замежных спраў дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавору (Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, Польшчы, Румыніі, Венгрыі і СССР), якая адбылася ў Будапешце, прыняла мемарандум.

У мемарандуме гаворыцца, што канферэнцыя ў справе еўрапейскай бяспекі магла б разгледзець наступныя прапановы:

- *запэўненне еўрапейскай бяспекі і рэзігнацыя з прымянянне сілы або пагрозы выкарыстання яе ў суадносінах між дзяржавамі ў Еўропе;*
- *пашырэнне, на раўнапраўных прынцыпах, гандлёвых, эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных суадносін, якія прычыняюцца да развіцця палітычнага супрацоўніцтва між еўрапейскімі дзяржавамі;*
- *утварэнне на еўрапейскай канферэнцыі органа па справах бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе.*

### ПЛЕНУМ КПЧ

26 чэрвеня г.г. закончыўся чарговы Пленум ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. Даклад аб выкананні пастаноў майскага пленума ЦК КПЧ з 1969 года меў I сакратар ЦК Г. Гусак.

Пленум зацвердзіў выключэнне А. Дубчэка з Камуністычнай партыі Чэхаславакіі, адкліканне яго з пасады дэпутата Народнай Палаты і з пасады пасла ЧССР у Турцыі.

⁂

Былы алімпійскі чэмпіён Э. Затопэк 25 чэрвеня г.г. быў выключаны з цэнтральных улад Чэхаславацкага Саюза фізічнай культуры. (ак)



## БССР

### У ТАН

Па запрашэнню ўрада Беларускай ССР у Мінску знаходзіўся ген. сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый У Тан. Сустракалі яго кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі. Візіт адбыўся ў вельмі ўрачыстым настроі.

### «ЗРОБЛЕНА Ў ПОЛЬШЧЫ»

У Мінску наладжана вялікая прамысловая выстаўка «Зроблена ў Польшчы». Польшча паказвае на Беларусі ўсё лепшае, да чаго здольная айчынная прамысловасць. Выстаўку наведалі кіраўнічыя асабістасці Беларускай Рэспублікі.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Вярхоўнага суда Беларускай ССР. У пленуме ўдзельнічаў пракурор БССР I. Пастарэвіч. Разгледжана пытанне аб дзейнасці судоў па разгляду спраў і матэрыялаў аб непаўналетніх.

### ПТАСІНЬСКІ

Мінск наведаў пасол Польшчы ў Саюзе ССР Ян Птасіньскі, які нанёс візіт кіраўнікам партыі і ўрада Беларусі. У сяброўскіх гутарках прыняў удзел міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч.

### МОВАЗНАЎЦАЎ

У Мінску адбылася Усесаюзная навуковая канферэнцыя мовазнаўцаў, прысвечана актуальным праблемам лексікалогіі.

### ЖУРНАЛІСТАЎ

Адбыўся пленум Мінскай арганізацыі журналістаў — Саюза журналістаў БССР. З дакладам выступіў намеснік старшыні праўлення абласной арганізацыі Саюза — рэдактар газеты «Вячэрні Мінск» Г. Лысоў.

### ПАМЯЦІ К. ЧОРНАГА

Грамадскасць беларускай сталіцы ўрачыста адзначыла сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага. У Акадэмічным тэатры БССР імя Янкі Купалы, на сцэне якога доўга ішла п'еса К. Чорнага «Бацькаўшчына», сабраліся паклоннікі яркага таленту гэтага вялікага майстра слова.

### БЕЛАРУСКАЙ

Споўнілася пятнаццаць гадоў Малой Беларускай чыгунцы. Гэтай чыгункай гаспадарыць моладзь, вучні — піянеры.

### МОДНАЕ

Мастацкі савет Міністэрства мясцовай прамысловасці прапануе сёлета беларускім жанчынам новае моднае адзенне, цікавыя мастацкія вырабы, сувеніры. Прывабны выгляд маюць трыкатажныя жакеты, льняныя касцюмы з лаўсанам.

### ЛУНІНЕЦ

Расце і прыгажэе палескі гарадок Лунінец. Гэта адзін з найбольш старых гарадоў Палесся.

### ГЕНІЮШ

Украінскі літаратурны месячнік «Жовтень» змясціў падборку вершаў вядомай беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш.

### «ПРАМЕНЬЧЫК»

«Праменьчык» — так назвалі свой альманах удзельнікі гуртка беларускай літаратуры Гудзевіцкай сярэдняй школы на Гродзеншчыне. Выдаецца ён ужо пяты год. У ім шмат мясцовага фальклорнага матэрыялу побач нярэдка надта цікавых вершаў гудзевічан. (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### СТЫМУЛЫ

26 чэрвеня адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, у якім прынялі таксама ўдзел члены Прэзідыума Цэнтральнай рады прафсаюзаў. Разгледжана супольная пастанова Рады Міністраў і Цэнтральнай рады прафсаюзаў у справе стымулаў матэрыяльнага зацікаўлення рабочых у гадах 1971—1975. Мэта пастановы — павязанне ўзросту заробкаў рабочых прамысловасці з выкарыстаннем рэзерваў і эканамічным прагрэсам прадпрыемстваў. Апрача таго, Рада Міністраў пазнаёмілася з выкананнем указанняў урада ў справе паляпшэння бяспекі і гігіены працы ў паасобных галінах нацыянальнай гаспадаркі. На аснове прадстаўленых матэрыялаў і вынікаў дыскусіі Рада Міністраў выдала распараджэнне ў справе далейшага сістэматычнага паляпшэння бяспекі і гігіены працы, а перш за ўсё ў справе больш эфектыўнага выкарыстання прызначаных на гэта фінансавых сродкаў.

### ГОСЦІ З СУДАНА

28 чэрвеня па запрашэнню старшыні Рады Міністраў маршала Польшчы Мар'яна Спыхальскага прыбыў у Польшчу з афіцыйным візітам старшыня Рэвалюцыйнай Рады і прэм'ер Дэмакратычнай Рэспублікі Судану ген. Гаафар Магамед Німейры.

### КАСМІЧНАЯ ФІЗІКА

У Вроцлаве адбылося пасяджэнне вучоных і спецыялістаў з сацыялістычных краін, якія прымаюць удзел у супрацоўніцтве над мірным выкарыстаннем касмічнай прасторы. Вучоныя пазнаёміліся з навуковымі матэрыяламі, атрыманымі дзякуючы спутнікам «Інтэркосмас I і II», а таксама разгледзелі прапановы ў справе супрацоўніцтва сацыялістычных краін пры даследаванні фізічных уласцівасцей касмічнай прасторы. Апрацаваны на 5 гадоў супольны план працы прадбачвае эксперыменты пры дапамозе спутнікаў і ракет, назіранні над касмічнай прасторай, праведзеныя з зямлі, а таксама пэўныя тэарэтычныя распрацоўкі.

### ЛЯКАРСТВЫ

Спажыццё лякарстваў узрастае ў нашай краіне штогод на 10 працэнтаў. 10 гадоў таму назад кожны жыхар краіны выдаваў у сярэднім на лякарствы 180 злотых, у мінулым годзе выдаваў на іх звыш 360 злотых, у гэтым годзе выдасць каля 385 злотых. Найбольш на лякарствы выдаюць жыхары Варшавы — у сярэднім 600 зл. на асобу, найменш жыхары Беласточчыны — няцэлых 160 зл.

### ДНІ МОРА

Адбыліся традыцыйныя, штогадовыя «Дні Мора». Цэнтральная ўрачыстасць была ў Шчэціне. Шчэцінскай яхтавай верфі прысвоена імя Тэлігі. Польская марская прамысловасць пабудавала на працягу 25-годдзя 1000 караблёў агульным грузапад'ёмам ў 4,8 мільёнаў тон. Экспарт карабельнай прамысловасці складае 16 працэнтаў усяго нашага экспарту ў групе машын і абсталявання. Польскі гандлёвы флот налічвае 250 караблёў грузапад'ёмнасцю ў 1,8 мільёнаў тон. Забяспечваюць яны амаль палову нашых транспартных патрэб у галіне замежнага гандлю. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ГАСПАДАРЧАЯ НАРАДА

У мінулым тыдні адбылася ў Беластоку нарада, прысвечаная актуальнаму становішчу ў гаспадарцы Беласточчыны і абмеркаванню галоўных заданняў наступнай 5-годкі. Вёў канферэнцыю сакратар ВК ПАРП В. Мікульскі, удзельнічалі ў канферэнцыі таксама куратар Беластоцкай школьнай акругі Э. Крынскі, старшыня Ваяводскай камісіі гаспадарчага планавання З. Падэмскі, сакратары прапаганды павятовых камітэтаў партыі і прадстаўнікі розных грамадска-культурных устаноў.

Як паінфармаваў прысутным на нарадзе старшыня ВКПГ З. Падэмскі, у будучай пяцігодцы значна ўзрасце тэмп развіцця прамысловасці на Беласточчыне. Асабліва хутка будзе развівацца тэкстыльна-адзежавая прамысловасць, змадэрнізуюцца і пашырацца ЗНТК у Лапах, Прадпрыемства А—26 у Элку, Фабрыка прылад у Беластоку. У сельскай гаспадарцы плануецца прырост глабальных прадукцый на 3 млрд. злотых. Усе напрамкі працы ў сельскай гаспадарцы накіраваны, як і ў прамысловасці, на максімальнае выкарыстанне рэзерваў дзякуючы інтэнсіўным метадам гаспадарання.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАСОЛЬСКАГА КАЛЕКТЫВУ

23 чэрвеня ў Беластоку адбылося чарговае пасяджэнне Ваяводскага пасольскага калектыву. Вёў пасяджэнне пасол у Сейм, I сакратар ВК А. Лашэвіч. Прысутны быў на пасяджэнні пасол Беластоцкай зямлі, старшыня Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю З. Новак.

Тэмай пасяджэння было выкананне заданняў, вынікаючых з датыхчасовых праўных актаў, якія рэгулююць перадачу зямлі, а таксама заданні пасольскага калектыву ў галіне папулярызацыі права аб парушэннях.

### III ПЛЕНУМ ВК ЗСЛь

23 чэрвеня адбылося III пленарнае пасяджэнне ВК ЗСЛь. Старшынёй на пленуме быў Т. Гоздэк. Сярод прысутных на пленуме былі віцэ-старшыня ВК ЗСЛь, старшыня Прэзідыума ВРН С. Жмійка, сакратар НК ЗСЛь М. Мажэц, намеснік кіраўніка Арганізацыйнага аддзела НК ЗСЛь, віцэ-старшыня Краёвай рады польскіх жанчын Я. Кубані. На пленуме абмяркоўвалася праца арганізацыі ЗСЛь сярод вясковых жанчын.

### ПРАБЛЕМЫ ВАДЫ НА ВЁСЦЫ

Чарговае пасяджэнне меў Ваяводскі камітэт гігіенізацыі вёскі. Абмяркоўваліся праблемы забеспячэння вёсак вадой. Вёў пасяджэнне намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч. Удзельнічалі ў працы камітэта гігіенізацыі прадстаўнікі службы здароўя і працаўнікі Ваяводскага інспектарата па справах сельскай гаспадаркі і забяспячэння вёскі вадой. Было абмеркавана выкананне запланаваных работ на 1967—70 гады і праект забеспячэння вёскі вадой у будучай пяцігодцы. У сучасны момант 17% вёсак нашага ваяводства адчувае недахоп вады, а 43 вёскі вымушаны прывозіць ваду здалёк. Праект забеспячэння сельскай гаспадаркі і вёсак вадой будзе прадметам абмяркоўкі на VI сесіі Прэзідыума ВРН. (яч)





**Niedziela, 5.VII.**

8.15 Program dnia; 8.20 „Przypominamy, radzimy"; 8.40 „Nowoczesność w domu i zagrodzie"; 9.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa"; 10.00 „Zaczarowany kożuszek" — film węg. odc. II; 10.20 Przerwa; 12.10 Program dnia; 12.15 Dziennik; 12.30 „Przemiany"; 13.00 „Bawcie się z nami"; 13.40 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — „Jedziemy z piosenką"; 14.10 „Piórkiem i węglem"; 14.35 „Polska leży nad Bałtykiem" — teleturniej; 15.35 „Spotkanie z pisarzem" — Jan Józef Szczepański; 16.05 Reportaż filmowy z Centralnego Święta Młodzieży w Kruszwicy n/Gopłem; 16.35 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w pływaniu Polska — Włochy; 17.50 PKF; 18.00 „Japońskie maski"; 18.35 Teatr Telewizji na Świecie: „Kapelusz" — dramat. Scenariusz — A. Galo (Hiszpania); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Muzyka i..."; 21.05 „Wszystko mi wolno" — film fab. franc.; 22.30 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 6.VII.**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 17.40 Echo stadionu; 18.05 Kino Filmów Animowanych; 18.35 Sztafeta reporterów — Eureka; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wieści z pól kamienistych" — polski film TV; 20.35 VII Telewizyjny Festiwal Teatrów Dramatycznych — Leon Kruczkowski „Śmierć Gubernatora" — insceniz. i reżyseria Jerzy Hoffman — z Teatru Ziemi Lubuskiej w Zielonej Górze; ok. 22.05 „Okno na świat" — rep. film.; 22.30 Dziennik; 22.45 Program na jutro.

**Wtorek, 7.VII.**

10.00 „Tarahumara" — film fab. meksyk.; 11.45 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.50 „Jak krawiec kraje"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 19.55 Śpiewa Anna German; 20.20 „Tarahumara" — film fab. meksyk.; 22.05 Kontakty; 22.35 Dziennik; 22.50 Program na jutro.

**Środa, 8.VII.**

10.00 „Na wilczym tropie" — film („Powrót doktora Kniprode"); 10.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.10 Telewizyjny Kurier Warszawski; 18.35 PKF; 18.45 Dialogi historyczne; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Na wilczym tropie" — film („Powrót doktora Kniprode"); 20.55 Światowid; 21.35 „Piękna jest muzyka polska"; 22.35 Dziennik; 22.50 Program na jutro.

**Czwartek, 9.VII.**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół podstawowych; 9.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 „Kraj zwany Belgią" — film prod. belgijskiej, dokumentalny; 17.25 Telewizyjny Kurier Kielecki; 17.40 Nie tylko dla pań; 18.00 „Konfrontacje muzyczno-miłosne"; 18.30 „Sława Lubuszanom" — rep.; 19.10 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Koncert międzynarodowy „Za nasz spokojny dom" — transmisja z Kołobrzega; ok. 21.20 w przerwie — „Mistrzowie Czekanki" film Tele-Aru; „Nie masz wina nad Węgrzyna"; ok. 22.15 Dziennik; 22.30 Program na jutro.

**Piątek, 10.VII.**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich; 10.00 „Gwiazda" film fab. czechosł.; 11.30 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.30 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 18.45 „Specjalizacja, ale jaka" — program wiejski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Film; 20.30 „Kraj"; 21.10 „Gwiazda" — film fab. czechosł.; 22.40 Dziennik; 22.55 Program na jutro.

**Sobota, 11.VII.**

10.00 „Ściśle tajne premiery" film fab. czechosłowacki; 11.30 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Program tygodnia; 16.35 „Oferty" — reklama; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Kurs Rolniczy „Lato 70"; 17.40 Spotkanie z przyrodą; 18.05 „Gramy o telewizor"; 18.30 Pegaz; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 Kino Interesujących Filmów „Z soboty na niedzielę" film fab. ang.; 21.45 Dziennik; 22.05 „Kariera" — program rozrywkowy wg scenariusza Jerzego Gruzy i Jacka Fedorowicza; 23.35 Program na jutro.





**Piątek, 3 lipca**

8.05 Nowiny; 8.15 Dla uczniów; 8.45 Film fab. 10.20 „Obiektyw"; 13.15 Program dnia; 13.20 Dla maturzystów; 14.20 Nowiny; 14.30 Wszechzwiązkowy Zlot Pionierów; 15.10 „Panorama nowin"; 15.35 Reportaż z muzeum historii Wielkiej Wojny Ojczyźnianej w Mińsku; 16.10 Film TV; 17.10 Reportaż TV; 17.40 Koncert życzeń; 18.10 „Czas"; 18.40 TV teatr miniatur; 19.40 Film fab.; 20.45 Panorama nowin; 21.00 Zawody lekkoatletyczne; 22.00 Nowiny.

**Sobota, 4 lipca**

8.00 Program muzyczny; 8.30 Międzynarodowy Dzień Spółdzielczości; 9.00 TV teatr dla dzieci; 10.00 Dla uczniów; 10.15 Przegląd międzynarodowy; 10.30 Szkatułka Muzyczna; 10.40 Kalinin w Mińsku; 11.10 Melodie naszego kraju; 11.30 Nasza poczta; 12.00 Film TV; 13.00 Koncert estradowy; 13.30 Reportaż TV; 14.00 W. Ardamacki. „Ja-11-17". Spektakl TV. Część I; 15.05 Kronika półwiecza. Rok 1941; 16.00 Nowiny; 16.05 „KWN-70". Finał; 18.30 „Czas"; 19.00 Film fab.; 20.45 Koncert; 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 5 lipca**

8.00 Zdrowie; 8.30 Koncert; 9.30 Almanach turystyczny; 10.00 Film fab.; 11.15 Dla wsi; 11.45 Koncert; 13.00 Dla żołnierzy; 13.30 „Ja-11-17". II i III część; 15.30 Śpiewa M. Moksakowa; 16.00 Nowiny; 16.05 Klub filmowy; 17.00 Film fab.; 18.15 Siedem dni; 18.45 M. Gogol. „Ożenek". Spektakl; 20.45 Koncert; 21.00 Nowiny.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 139

# ЯКІ МОЙ ДЗЕД



*Раз у цёплы вечар на падворку,*
*Зыйшліся дзеці на гаворку.*
*Узнікла шмат цікавых спрэчак:*
*Не пра сабак, не пра авечак...*
*А проста — гэта не сакрэт, —*
*Які ў каго разумны дзед.*

*— Мой дзед, — азваўся першым*
*Юрка, —*
*Мне шмат расказваў аб турках,*
*Аб тым, як шведы і татары*
*Ішлі на нас калісь, як хмары.*
*Яму вядомы ўсе падзеі,*
*Бо ён гісторыкам ў музеі.*

*— А мой, — ажывіўся Пархом, —*
*Працуе ў пушчы леснікам.*
*Такі разумны і цікавы,*
*Што знае ўсе лясныя справы.*
*Водзіць мяне ў лясную гушчу*
*І правіць усё пра пушчу.*

*— Цікава гэта вы сказалі, —*
*Пачуўся збоку голас Галі.*
*А мой дзядуля — ўжо як голуб —*
*Амаль што не хадзіў у школу,*
*Але на скрыпцы, як зайграе,*
*То аж у грудзях дух займае.*

*— У мяне, вось, дзед! — ўключыўся*
*Косцік, —*
*Працуе солтысам на вёсцы.*
*Дваццаць пяць год на той пасадзе.*
*Ён кожнаму усё дарадзіць.*
*За працу ён дастаў адзнаку*
*І ўрад прыслаў яму падзяку.*

*— Мой дзед, — гаворыць ўсім*
*Сакрат, —*
*Насіў калісьці аўтамат —*
*Быў партызанам і салдатам.*
*І зараз ён з нагоды свята*
*Носіць усе свае медалі,*
*Што за баі яму давалі.*

*Нагаварылі ўсе нямала,*
*Ды толькі Толя ўсё маўчала.*
*Не ведалі таго сябры,*
*Што дзед яе ўжо нежывы.*
*Усе з цікавасцю свой зрок*
*Накіравалі ў Толі бок.*

*— Мой дзед, — сказала сумна Толя, —*
*Араў і не вярнуўся з поля.*
*Ён партызанам памагаў,*
*Адзенне, ежу ім даваў...*
*Не ўспеў ён заслужыць медалі,*
*Яго бандыты расстралялі.*

*Ляжыць на могілках, пад клёнам,*
*Над ім мурог парос зялёны,*
*А восенню скрыпяць канары,*
*Ды слёзы льюць сівыя хмары.*

*І стала ціха — змоўклі дзеці,*
*Нават прыціх у дрэвах вецер.*
*Звяры прыціхлі, птушак гоман,*
*Як бы памерла ўсё на момант,*
*Каб праявіць таму пашану,*
*Хто даў жыццё за партызанаў.*

*Назаўтра рана ішлі дзеці*
*Магілу дзедаву уквеціць.*

**Зося Стаськевіч**

* * *

Зноў напіўся, бы свіння. Сораму не мае, вол акаянны. І глядзіць, бы чорт на свянцоную ваду. Дзеці хлеба не маюць, вошы вопратку раз'елі, а ён — п'е. Эх, каб узяў сякеру ды трэснуў па гэтай дурной башцэ, раз бы ўсё скончылася.

А ён сядзеў, апусціўшы галаву. Яна была цяжкая, бы волава, і цягнула ўніз да зямлі, у прорву, з якой няма ратунку. Напіўся. Сорамна было слухаць, ды глядзець у вочы жонцы. Не мог апраўдацца. Вінаваты. Каяўся і біўся ў пустыя грудзі. Заклінаўся, што гэта апошні раз, што больш не будзе піць. А потым усё мінала, бы тыя гады, хутка, нечакана, і толькі след застаўся ў маршчынах, ды дрыжачых руках. Аднак піў. Піў і краў. Выносіў



што папала. З прадпрыемства, з гаспадаркі, з якой не было чаго ўжо выносіць.

Аднойчы не вярнуўся дахаты. Жонка хоць і крычала, на гэты раз была неспакойная, перапуджаная. Усё ж гэта яе чалавек — муж, ды бацька дзецям, якія, бы стадка перапалоханых авечак, збіліся ў кутку і плакалі. Было жудасна і страшна. Раніцою пад дом заехаў чорны самаход.

Збіраліся цікаўныя і ўкрадкай выцiралі слёзы. Плакалі над сваім лёсам.

**Уладзімір Дваракоўскі**

## За Ярашоўкаю

За Ярашоўкаю, калі ісці лесам улева, можна напаткаць даліну.

Летам я, Таня і дзеці, ходзім у даліну за Ярашоўкаю. Дзеці бягуць па кветках, бягуць далёка і вяртаюцца; ідзем, я расказваю Тані аб сельскагаспадарчай культуры пад Беластокам.

У даліне сажалкі. У сажалках рыба; над сажалкаю чаромха, і мы заўважылі, што пад чаромху прыходзяць дзяўчына з хлопцам. Ён дорыць ёй галінку белага паху. Яны нічога не гавораць і доўга стаяць.

У канцы лета мы аблюбавалі сабе месца ў зацішшы маладняку, што расце над далінаю, пад старым лесам. Тут настой паху з маладой жывіцы ды цішыні; ад таго дзеці гулялі неяк гультаявата і як бы адпачываючы.

Адыходзілі дамоў, калі сонца ўжо гняздзілася ў аголеных пагорках, за пыльнаю дарогаю на самым небакраі.

Я не сказаў, што прыходзім у гэту даліну з прычыны той, што некалі над сажалкаю была чужая гаспадарка, якая адабрала лепшыя гады маёй маці; з прычыны той, што мне ўсё не верылася, каб у такой цудоўнай даліне чалавек змог выплакаць столькі слёз горычы чужога хлеба. І яшчэ з прычыны той, каб наглядзецца ды наслухацца блакітнай радасці маіх дзяцей. А малодшаму з іх восем год.

Восем год было маёй маці, калі развітвалася тут з дзяцінствам. Маладосць прайшла бокам, за гараміл лясамі.

**Сакрат Яновіч**

## У межах мроі

З выпаўшых валасоў
выплятаю чапец
на шчасце
дзецям чалавечнасці

хацелася б убачыць
адвечныя ўздохі
у натхненні пальцаў
у бліску вачэй
за жыцця

**Яша Бурш**




*А. Ек. — Дзякуем за сардэчны ліст. Вельмі нам прыемна, што вы з'яўляецеся пастаянным чытачом «Нівы». Добра таксама, што прабуеце сваіх сіл у літаратурнай творчасці. На жаль, прысланы вамі верш «Радзіма чакае» напісаны амаль прозаю, толькі што разбітаю на радкі (напр.: «Аднойчы яго акружылі фашысцкія гады. Пазнаў ён, што гэта холад і голад. Так сама, як многа сяброў яго» і г.д.). Шкада, што вы не прыслалі нам больш сваіх вершаў — магчыма, што знайшлі б вершы, прыгодныя ўжо на літстаронку. А затым — чакаем.*

# У гасцях беластоцкія паэты

**Аляксей Казбярук**

## Маё пакаленне

спачатку мела быць маладосць —
на фоне музыкі кулямётаў
пагасла
адыходам дыхання
за мяжу шопату

вочы слязою пакаціліся
яшчэ на зямлю
ды ўжо лягчэйшую
на сілу прыцяжэння
шыбеніц
пад хмарай цыклона

пагнаныя прэч з зямлі
пападалі ў калючыя драты
і думкі ўжо не зацвілі
карагодам гулялі халады

пазней
на апошнім кусочку сонца
перамога

радзілася
бы стрэл у плечы

на шляху
маніфестаў —
планаў —
змаганняў
рукі больш мазалямі абросшыя
і больш маршчын ад думак

схалі
ўсмешкай дзіцяці
у новую кватэру
на вуліцы без смутку
і вось гэта мы
— пакаленне —
на пустыя раўніны
кладзем колеры
часткай нашай айчыны
квітнее хлеб чорны

*пераклаў Віктар Рудчык*

**Яўгені Шульборскі**

## Даспяванне

Недзе пад восень
Жыта зямлі
Паклоніцца калоссем
Збялелым,
Снапы,
Як дзяцюкі свавольныя дахаты,
Збягуцца ў клуні
Зярном даспелым і багатым.

*пераклаў І. Чыквін*

**Тадэуш Гіцгер**

* * *

*Ёлак белыя вежы з Белавежы*
*пад снежным парусам стройных*
*соснаў*
*плывуць у мінулае морам белым*
*на сустрэчу галандскім шкіпёрам.*

*Дзяцел стукоча, аж іней белы*
*ссюць дрэвы, а рэха ляснoе*
*цішыню па карчах растрасае,*
*і белае мора штормам шуміць*

*Снежныя дзюны, белая пена,*
*быццам зубровая сукня, тырчаць,*
*рохкае злосна дзік і, бы човен,*
*у пушчанскі гушчар адплывае.*

*А там жа брэх паляўнічых сабак*
*бураму мішцы сон устрывожыў...*
*І коціцца ён, аж спыніць яго*
*каралеўскі сігнал перамогі.*

*І зноў цішыня расцягнула вуаль,*
*на галінках расселася тоўстых*
*і скручаных так, што вецер-хітрун*
*сцежкі свае, бясспрэчна, разгубіць.*

*З цыкла: «Беластоцкая зямля»*

*Пераклаў Віктар Швед*



**Т. А. Маславецкі**

## Бяздомныя ключы

Цаліною крочыла
Польшча
размазаная на бледных шчоках
грамады сірот
той жа дарогай
вярталіся мы — бацька і я.
Ён у шынелі
з вінтоўкай як касцёл
а я — у шапцы з арлом
і давялося нам бачыць
агонь
злізваў слёзы з вачэй
і давялося нам слухаць
канцэртаў ключоў
бяздомных

*пераклаў Віктар Рудчык*

**Веслаў Казанэцкі**

* * *

*я шанаваў цябе за вырастаючую*
*пакатасць жывата*
*ён круглы крыкнуў я аднойчы*
*ноччу*
*адкрываючы адну з найбольшых*
*таямніц света*
*ты зрабіла мяне адкрывальнікам*
*хоць я толькі цябе распранаў.*

*пераклаў І. Чыквін*

**Ганна Цыганчук**

* * *

мы ідзем да сябе ад пачатку света
праз мора крыві жанчын і мужчын
якіх ніколі ўжо не будзе
як паўтарэнне чужых рук і жэстаў
перад вякамі памёршыя прачынаюцца ў нас
штодзень
і таму адразу пры першай сустрэчы
ведаем, што лёс нам даў спатканне
ужо тады я была тваёй жанчынай — ты маім
мужчынай
можа нават былі ў нас тыя самыя імёны
а калі б цябе і звалі інакш ці ж я не кахала б
і цяпер калі мушу ад усяго адмовіцца — скажу —
будучы тваёй перад вякамі — памятаеш —
будучы тваёй цяпер тваёй быць не магу
бо лёс так захацеў і даў нам растанне

*пераклаў І. Чыквін*



# БЕЛАСТОЦКАЯ КААПЕРАЦЫЯ

У мінулым годзе 67 працэнтаў беластоцкага дэталічнага гандлю знаходзілася ў кааператыўных руках, дзяржаўная і прыватная гандлёвая сетка крамаў не перавышае 18-ці працэнтаў. Аб чым сведчаць гэтыя лікі, даныя? Сведчаць яны аб тым, што практычна амаль цэлы наш беластоцкі гандаль знаходзіцца ў кааператыўным гаспадаранні. Да кааперацыі належыць больш сямісот тысяч статыстычных асоб, якія ўнеслі ўдзелы ў размеры каля ста сарака мільёнаў злотых. Спажывецкая кааперацыя пад безупынным кантролем членскіх мас, кожная крама знайшлася пад наглядам кантрольных груп. Дзякуючы таму выбар прадуктаў і тавараў паляпшаецца. Дзяржаўны гандаль аперыруе толькі вялікімі магазінамі і складамі прамысловых вырабаў. Аднак ў Беластоку кааперацыя мае некалькі вялікіх гандлёвых дамоў, якія сваімі абаротамі няшмат уступаюць.

Вялікай і, бадай, самай важнай галінай дзейнасці кааперацыі з'яўляецца прамысловая вытворчасць. Восемдзесят працэнтаў сярэдняй і дробнай прамысловай вытворчасці з'яўляецца кааператыўнай. Дзяржава ў асноўным кіруе толькі прадпрыемствамі цэнтральнага значэння для агульнанацыянальнай гаспадаркі. Вартасць прамысловай вытворчасці кааператыўнай на Беласточчыне ў мінулым годзе дасягнула амаль чатырох мільярдаў злотых.

Вобразна кажучы, кааперацыя належыць да «тройцы» — побач дзяржаўнай гаспадаркі і сельскай, — якая вырашае аб гаспадарчым абліччы нашага ваяводства.

Асаблівая заслуга кааперацыі працы ў ліквідацыі беспрацоўя сярод жанчын. Створана шмат прадпрыемстваў, дзе жанчынам пад сілу прадукцыйная праца. Шырока ўводзячы механізацыю працы, была атрымана магчымасць пераводу мужчынскіх кадраў да больш працаёмкіх вытворчых працэсаў. Характэрнай рысай міжлюдскіх адносін у кааператыўных фірмах можна палічыць тое, што кіраўніцтва прадпрыемства не мае права звольніць рабочага без згоды цэлага завадскога калектыву. Кожны рабочы з'яўляецца супольным уладальнікам капіталу. Моцна разбудаваная сетка кваліфікацыйных курсаў, дзе дасканаляць сваю спецыялізацыю або здабываюць новыя спецыялізацыі сотні і тысячы работнікаў.

Варта яшчэ адзначыць удзел кааперацыі ў развіцці сацыялістычных адносін: вартасць грамадскіх чынаў перавысіла сто сорак мільёнаў злотых толькі за адзін мінулы год. У галіне культуры кааперацыя адыгрывае штораз большую ролю мецэната. Зараз адкрыты ўжо сто дзевяноста два клубы гаспадара ў вёсках, кааперацыя фінансуе дзейнасць ста трыццаці калектываў маладога гаспадара, якія арганізуе маладзёжная палітычная арганізацыя ЗМВ. Алкрыта 143 асветныя пункты і дзевяноста шэсць асяродкаў сучаснай гаспадыні.

Шматбаковая дзейнасць кааперацыі з'яўляецца доказам таго, што добрая гэта школа будучага грамадства. (ся)


*Аўтакарам у свет.*
*Фота Цаф — Сянько*

Пачатак на стар. 1

## Пяцігодка бельскай культуры

газета, кніжка ды аматарскі мастацкі гурток. Гэта адначасова і добра, і дрэнна. Добра, бо тэлевізар уносіць у вясковае жыццё культуру высокага стандарту, культуру дасканалую па форме і добрага зместу, дрэнна аднак, бо ўспрыйманне гэтай «тэлевізійнай культуры» найчасцей зусім пасіўнае без творчага заангажавання гледачоў.

Як дагэтуль аднак, тэлевізія ўстрымала толькі да поўнай меры бурлівае развіццё вясковага самадзейнага руху, але яго не зменшыла. Надалей у павеце існуе каля 60 самадзейных драматычных гурткоў і некалькі гурткоў спяваючых ды інструментальных. Не зменшылася таксама зацікаўленне насельніцтва павета кніжкай. Вясковыя бібліятэкі налічваюць у суме звыш 15 тысяч чытачоў. Развіццё чытальніцтва залежыць аднак ад таго, ці бібліятэкі маюць дастатковую колькасць добрых кніжак, а асабліва добрых кніжных навінак. На працягу пяцігодкі бібліятэкі Бельшчыны выдаткавалі на закуп новых кніжак амаль паўмільёна злотых. Сума здавалася б і не малая, але бібліятэкары ўсё яшчэ адчуваюць, што маюць замалыя магчымасці папаўняць кнігазборы добрымі літаратурнымі навінкамі.

У культурным жыцці нашай вёскі, так як і ў эканамічным яе жыцці, заходзяць пастаянныя змены. Не заўсёды яны такія і не ў такім маштабе, як бы гэтага нам хацелася. Але напрамак іх выразны: вядуць яны да пашырэння ўдзелу сялян у сённяшняй масавай культуры, а затым да паступовай затраты межаў паміж культурай вёскі і культурай горада.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК

Пачатак на стар. 1




тафету, нашу беларускую паэзію і прозу, нашу бацькоўскую мову.

Але ці ўсё зрабілі мы, дарослыя, мы, арганізатары конкурсу, каб гэтыя дзеці таксама вынеслі як найбольш мілыя ўражанні? Здаецца мне, што не ўсё. Здаецца мне, што павятовы беластоцкі аддзел БГКТ не быў падрыхтаваны ў вызначаны тэрмін прыняць малых гасцей. І можа нават справа не ў тым, што не паспелі падрыхтавацца. У навале рознага роду конкурсаў арганізатары патрактавалі яго як яшчэ адзін, які трэба правесці, проста не падумалі аб тым, што прыедуць здалёк зусім малыя дзеці, што ім патрэбна большая апека, чым дарослым.

Не гаворачы ўжо аб тым, што трэба было б, каб арганізатары з аддзела БГКТ падумалі аб шклянцы чаю або аранжадзе для малых (некаторыя з іх выязджалі з дому а 4-ай гадзіне раніцы, каб паспець на 9-ую), дык для іх не знайшлося нават месца ў будынку таварыства, хоць аб конкурсе было вядома на два месяцы раней, ды і ўзнагароды былі зусім не прадуманыя: наймалодшыя дзеці атрымалі неадпаведныя для свайго ўзросту кніжкі, а найлепшыя — пласцінкі з песнямі Забэйды-Суміцкага. Атрымалі тое, што знайшлося ў апошні момант пад рукой у інструктара.

Лічу, што калі гэты конкурс і адбыўся, дык гэта толькі дзякуючы асветным уладам. Інспектар асветы зрабіў усё, што было ў яго кампетэнцыях: школам паведамілі, былі прызначаны грошы на дарогу, а падінспектар Крэнтоўскі ў апошнюю хвіліну (калі аказалася, што ў будынку БГКТ зала занятая, бо там запланаваны іншы конкурс), у вялікай паспешлівасці знайшоў месца. каб усё-такі конкурс адбыўся.

Падобна, калі не горш, выглядае справа гэтага конкурсу ў гайнаўскім аддзеле. Школы атрымалі паведамленні аб тым, што конкурс для малодшых класаў адбудзецца 6 чэрвеня. Падрыхтаваліся... і не атрымалі запрашэння на конкурс. Каб не рабіць прыкрасці дзецям, настаўнікі, напрыклад, у Трасцянцы, арганізавалі ў сябе на месцы школьны дэкламатарскі конкурс, і ўсе ўдзельнікі атрымалі кніжныя ўзнагароды.

Такая арганізацыя добрых і патрэбных мерапрыемстваў можа адбіць ахвоту людзям уключацца ў іх, падрывае аўтарытэт нашага таварыства і можа змарнаваць шмат добрых і карысных спраў.

Я. ЧЭРНЯКЕВІЧ

Пачатак на стар. 1

## СУХІНІЧЫ ХОЧУЦЬ ПАДЫСКУТАВАЦЬ З ІГНАТОВІЧАМ

ках Пац з Ігнатовічам, вядома, могуць прыняць людзей са скаргамі і, пэўне, маюць нат' вызначаныя дні і гадзіны такіх прыёмаў. Аднак, гэта не значыць, што сустрэчы з насельніцтвам непатрэбны. Мудрасць ідзе не толькі зверху, не толькі ў паперах яна, але і ў набалелых людскіх словах.

Гэтыя словы датычаць не толькі Ігнатовіча з Пацам, не толькі Бабікаўскай рады...

Сухінічы абвінавачваюць у сабепанстве работнікаў Бабікаўскай грамадскай рады і пытаюць, хто каму служыць: «ужэнднікі» народу, ці народ «ужэнднікам»? Здаецца, некаторым рэферэнтам не прыходзіць тое і ў галаву...

З меншых спраў сухініцкія людзі прасілі мяне напісаць у «Ніве», што няма ў гэтай вёсцы вулічнага асвятлення. Няма яго і не было. Павінна быць яно, радным таксама цёмна хадзіць увечары. Дзівіць мяне толькі, што не паверылі ў сілу і моц мясцовай улады ў вырашэнні гэтага праблемчыка. Праблемай назваць гэтага нельга. (С. Я.)

КУПЛЯЙЦЕ

## „У ШКОЛЕ І ДОМА"

*Ужо з'явілася ў кнігарнях Беластока, Бельска і Гайнаўкі новае выданне падручніка роднай мовы для трэцяга класа «У школе і дома». Аўтары яго Лідзія Гайдук і Мікалай Гайдук. Гэты новы падручнік беларускай мовы аб'ядноўвае ў сабе чытанкі, вершы, фальклорны матэрыял, правілы правапісу і граматыкі, тут змяшчаецца многа практыкаванняў для пісьмовых і вусных заняткаў. Ён вельмі зручны ў карыстанні і для настаўнікаў і для вучняў, бо ў адным падручніку змешчаны ўсе формы працы, якія прадбачаны ў праграме навучання беларускай мовы ў III-цім класе. У падручніку, прыгожа і багата ілюстраваным, ёсць таксама слоўнік незразумелых слоў. Неабходна, каб навучанне беларускай мовы ў III-цім класе ў новым 1970/71 школьным годзе адбывалася па гэтаму падручніку.*

## БЕЛАРУСКІЯ КЛАСЫ БЕЛЬСКАГА ПЕДЛІЦЭЯ

Агульная колькасць абсальвентаў беларускіх класаў бельскага педліцэя да 1968/69 навучальнага года — 427 чалавек. Многія з гэтых абсальвентаў займаюць сёння адказныя навуковыя, педагагічныя, палітычныя і адміністрацыйныя пасады. Андрэй Дзмітрук з'яўляецца дацэнтам біялагічных навук у Лодзінскім універсітэце, Мікалай Вінярскі з'яўляецца ад'юнктам педагагічнага факультэта ў Варшаўскім універсітэце, Мікалай Зінчук старшым асістэнтам матэматыкі ва ўніверсітэце ў Любліне, Юры Васілюк мае пасаду дырэктара агульнаадукацыйнага ліцэя ў Замброве, дырэктарам ліцэя медсясцёр у Бельску з'яўляецца абсальвент Уладзімір Федарук. Многія з абсальвентаў беларускіх класаў з'яўляюцца кіраўнікамі 8-класных пачатковых школ, многім даверана кіраваць грамадскімі камітэтамі і пярвічнымі арганізацыямі ПАРП, многія з'яўляюцца раднымі... (ак)






Восенню 1923 года ў Мінску з'явіўся невысокі юнак з Цімкавіч, сялянскі сын, які тады ўжо дасканала ведаў і жыццё селяніна, і яго мову. Быў гэта Мікалай Карлавіч Раманоўскі — у будучым вядомы беларускі пісьменнік Кузьма Чорны. Прыехаў ён у Мінск, каб вучыцца і працаваць: адначасова амаль паступае на літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта Мінскага універсітэта і пачынае працаваць у газеце «Беларуская вёска», куды залічылі яго перакладчыкам. Была гэта жмудная і нялёгкая праца. Але ж ад газеты пачынала звычайна большасць пісьменнікаў...

«Амаль усе пісьмы, — успамінаў пазней адзін з супрацоўнікаў К. Чорнага, — таксама як і вершы, апавяданні пачынаючых паэтаў і празаікаў, пісаліся, вядома, па-беларуску. Вельмі часта ў іх сустракаліся сапраўдныя залатыя крупінкі, якімі захапляўся нават такі майстар слова як Кузьма Чорны. Аднак сярод шматлікіх карэспандэнцый траплялісе і такія, што былі напісаны сухой канцылярскай мовай, без пачуцця і хвалявання. Такая мова абурала Кузьму Чорнага.

— Трэба ўсё нанава перарабляць, — гаварыў ён у такіх выпадках. — Вот напісаў, дык напісаў, каб табе ручкі, як той казаў... Не раўняючы, як даўней пісар у Цімкавічах...

Аднойчы ён сядзеў за невялікім, сціснутым між двух сцен, сталом і правіў заметку старога селькора (сельскага карэспандэнта) Міколы Лазарчыка.

— Сапсаваўся, сапсаваўся чалавек. Не думае, не перажывае таго, што піша. Мусіць, спісвае... Па стылю відаць...

Як на тое — адкуль і ўзяўся — зайшоў у наш пакой і сам селькор. Кузьма Чорны папрасіў яго бліжэй да стала і, падсоўваючы крэсла, з нейкай задуменнасцю паглядзеў яму ў твар.

— Ну, скажы, браток, ці ў вас так гавораць?

І пачаў прачытваць яму адну за другой сухія, штампаваныя фразы з пісьма.

— Сапсаваўся ты, браток, сапсаваўся. Быў Міколам Лазарчыкам, пісаў як чалавек, а стаў «Пралескай», і мову сваю страціў.»[1])

Кузьма Чорны, чалавек, які нягледзячы на сваю заўчасную смерць, пакінуў для беларускай літаратуры вялікую спадчыну, пісьменнік, які быў майстрам філасофскага рамана, заўсёды тлумачыў, што мова павінна быць простай і жывой, такой, якая яна ёсць, а не прыдумваецца.

7 ліпеня споўнілася б Кузьме Чорнаму 70 год. У 1944 годзе зваліла пісьменніка няўмольная хвароба. А мог жа ж яшчэ жыць і працаваць! Не споўніліся яго творчыя задумы. Былі яны вялікія. У сваёй аўтабіяграфіі ў 1940 годзе К. Чорны пісаў: «На выкананне майго замыслу спатрэбіцца многа год пільнай і ўпартай працы. Я цвёрда спадзяюся, што мне ўдасца выканаць гэту сваю працу. Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства. Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка — адна на год, здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся. Так жыў народ. Бацькі мае цьмяна марылі аб нейкай невядомай ім лепшай долі для сваіх дзяцей. Я стаў пісьменнікам. Больш таго, я пішу на мове тых простых людзей, сярод якіх і вырас. Гэтыя людзі сталі шчаслівымі на зямлі, іх мова стала дзяржаўнай мовай. Я пішу аб гэтых людзях у сваіх кнігах».[2])

Аб гэтых людзях Кузьма Чорны паспеў напісаць нямала. Беларуская проза атрымала творы нябачаных дагэтуль маштабаў, якія шырока ахоплівалі падзеі, творы з глыбокім псіхалагічным аналізам. Сваю ўвагу пісьменнік канцэнтраваў у асноўным на паказе перажыванняў, унутранага свету працоўнага чалавека. Сын вясковага батрака, К. Чорны з дзяцінства пазнаў усю горыч жыцця, навучыўся многае бачыць і разумець... Для яго важна не толькі тое, што чалавек гаворыць, але і што ён думае, што ён хавае ў сабе. Герой апавядання «Хвоі гавораць» разважае: «Няхай ён гаворыць аб чым сабе хоча, а я буду з па-за гэтых слоў чуць тое, аб чым ён не гаворыць, аб чым толькі думае...»

Аналізу думак і ўчынкаў людзей прысвяціў сваю творчасць К. Чорны. Яго несмяротныя раманы «Бацькаў-

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ТРУСКАЛКІ

Ну, і нарэшце настаў сезон трускалак. Трускалкі — гэта вельмі здаровыя ягады. Ёсць у іх вельмі многа жалеза, вапны і фосфару, а акрамя гэтага патас і кобальт. Вітамін, праўда, замнога яны не маюць, але калі есці іх большую колькасць, дык арганізм атрымае дастаткова многа вітамін С, В, А і РР.

Трускалкі вельмі патрэбныя для хворых анэміяй, рэўматызмам, склерозам. Арганізм вельмі лёгка прысвойвае трускалкі. Малюсенькія семячкі трускалак «рэгулююць жалудак».

Вядома, што найлепш і найздаравей есці трускалкі сырыя. Падаючы іх аднак сырымі, неабходна памятаць, што трускалкі, як і іншыя ягады, у час вегетацыі апырскваюць рознымі хімічнымі сродкамі. Таму перад падачай неабходна іх старанна вымыць, найлепш пад кранам, пасля чаго варта (асабліва для дзяцей) апаласкаць у халоднай кіпячонай вадзе.

Падаюць трускалкі альбо з шыпулкамі, або без іх. Калі без шыпулак — дык пасыпаюць цукрам, а часта паліваюць яшчэ і смятанай. Вельмі смачныя трускалкі, палітыя смятанай, узбітай з цукрам.

Ну, але настаў час, калі трускалак ёсць настолькі многа, што можна пазволіць сабе на тое, каб зрабіць з іх кампот, суп, ці спячы які-небудзь пірог.

Сёння мы вырашылі падаць вам 2 рэцэпты на трускалкавы дэсерт.

1. Жэле з трускалкамі. Паўкілаграма трускалак выпаласкаць, ачысціць і засыпаць цукровай пудрай на 15—20 мінут. Адліць сок і падзяліць трускалкі на 4 місачкі. Пачку лімоннага жэле (галярэткі) падрыхтаваць паводле рэцэпту на ўпакоўцы, дадаючы сок з трускалак, заліць ім трускалкі і пакінуць на некалькі гадзін, каб застылі. Падаючы, на кожнай порцыі палажыць смятанку, узбітую з цукрам.

2. Пірог з трускалкамі. З паўкілаграма мукі, чвэрткі масла або маргарына (найлепш — палова масла і палова маргарына), 15 дэкаграмаў цукровай пудры, 4 жаўткоў, 1 дэкаграма дражджэй (калі іх якраз няма ў хаце, можна ўзяць лыжачку парашку або соды) і сцертай лімоннай скуркі замясіць цеста (па магчымасці хутка) і ўставіць яго на паўгадзіны ў халадзільнік. Вынятае з халадзільніка цеста разлажыць роўным пластом на блясе, накалоць відэльцам і спячы ў гарачай духоўцы. Трускалкі (1 кг) старанна выпаласкаць, ачысціць і асушыць. З застаўшыхся 4-ох бялкоў узбіць крэпкую пену, дадаючы патроху 30—40 дэкаграмаў цукру і ванілін. Цяпер цеста трэба крыху пасыпаць молатымі сухарамі або пакрышанымі гарбатнікамі (пячэннем), разлажыць на гэтым трускалкі, прыкрыць пенай і паставіць у не надта гарачую духоўку, пакуль пена не зарумяніцца.

Такі пірог смачны і гарачы, і халодны.

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ і ЛЮДЗІ

### СЛАЎНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

*Шчаслівая пара выходзіць з катавіцкага Палаца шлюбаў.*

*Маладажоны прымаюць першыя віншаванні.*

Рэжысёр Казімеж Куц, які праславіўся фільмам «Соль чорнай зямлі», нядаўна ажаніўся з Малгажатай Гілерт, якая з'яўляецца членам дзяржаўнага народнага калектыву песні і танца «Шлёнск». Маладая і малады нарадзіліся на Шлёнску і там выраслі. Іх шлюб выклікаў вялікае зацікаўленне ў Катавіцах. Адным са сведкаў на гэтым шлюбе быў сам член Рады Дзяржавы і адначасова старшыня Прэзідыума ВРН у Катавіцах Ежы Зентэк. (вр)

### ТАЙНЫ КРАПІВЫ

Што, не пазнаеце? Дык паглядзіце на пухіркі на назе. Так, гэтае ведаем і адразу ўяўлем сабе пякучую боль і невыносны сверб. Рука сама пацягваецца, каб пачухаць, а пачухаеш, дык яшчэ горш, бо пальцамі разводзім на назе крапіўны яд і, такім чынам, запаленне скуры пашыраецца.

Цяпер уважліва паглядзіце на другі здымак. Што абазначаюць гэтыя коп'і? Правае і левае — добра нам вядомыя валаскі крапівы, сярэдняе — для параўнання — канец самай тонкай іголкі для ўколаў, якую дагэтуль удалося зрабіць чалавеку. Вось якою зброяй валодае добрая знаёмая чалавека — ўсюды прысутная крапіва.

Валасок крапівы ў натуральным выглядзе мае даўжыню ад аднаго да двух міліметраў. Ён адначасова цвёрды і гібкі, бо яго сценкі збудаваны з калію і крэменю. Пры сутыкненні з целам чалавека вельмі лёгка прабівае скуру. Яго ўколу зусім не чуем, пакуль крапіўны яд не закране нервовых канчаткаў, пакуль не пападзе ён у кроў. Тады пачынае свярбець.

Такім чынам, крапіва бароніцца перад атакам яе ворагаў: хочаш мяне знішчыць, вырваць, або з'есці, дык памятай, што я патраплю адпомсціцца, — так быццам бы заяўляе ўсім, хто паявіцца ў яе суседстве.

Яшчэ раз зірніце на здымак. Чорныя пасачкі ў коп'ях — гэта раўчукі, па якіх сплывае яд. Асабліва добра відаць кроплю таго яду на здымку справа. Здымак гэты зроблены з павелічэннем у тысячу раз.

Вось якія мініяцюрныя і адначасова незвычайна спраўныя інструменты патрапіць выконваць прырода. А гавораць пра яе, што яна сляпая. (вр)

В. Р.

Фота «Знание и сила»

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Як лячыць зубатага кіта?

Вельмі цяжка зрабіць укол. Паставіць жа гарчычнік практычна немагчыма. Можна накарміць хворага пілюлямі. Але паколькі кіта цяжка ўгаварыць глытаць пілюлі, узнікла ідэя хаваць лякарства ў макрэлях, якіх кіт — і хворы і здаровы — глытае з задавальненнем. Вось так на каліфарнійскай акіяналагічнай станцыі Сан-Дзіега вылечылі трох кітоў, якія падхапілі дзесьці ганконгскі грып.

### Праца з кракадзіламі

Дрэсіроўшчык Перуклет — адзін з нямногіх, хто працуе з кракадзіламі. На працягу 10 гадоў яму ўдалося прыручыць 47 кракадзілаў рознага ўзросту і велічыні.

### Ці патрэбны ўсе 4 колы?

Хозе Канга, былы цыркач-канатаходзец, цяпер вядомы аўтагоншчык фірмы «Сімка», устанавіў своеасаблівы рэкорд: ён праехаў на двух колах сваёй машыны каля 113 км! Усё, што патрэбна для гэтага трука, — нахільная стартавая пляцоўка і выдатная здольнасць утрымліваць раўнавагу, перамяшчаючыся на хаду ўнутры машыны (Францыя).

## ПЕКАР ПРЫРОДА

У апошні час усё большае пашырэнне ў народнай медыцыне атрымлівае праполіс (пчаліны клей). Пры фурункулах, карбункулах, гідраадэнітах на паражонае месца накладваецца тонка зрэзаная пласцінка праполіса і зверху прыклейваецца лейкапластырам. Пад такой павязкай вельмі добра рассасваецца інфільтрат, хутка праходзіць боль.

Шырока ўжываюць праполісавую мазь пры апёках, абмаражэннях, ушыбах, пры дэрматозах, пры свербе. Зрабіць мазь можна самім. Для гэтага трэба ўзяць 150 гр. вазелінавага масла, 50 гр. воску і 100 гр. праполісу. Масла даводзяць да кіпення, расплаўляюць у ім воск і здроблены праполіс, кіпяцяць 30—40 хвілін і пасля дадаюць туды 200 гр сметанковага масла. Маззю гэтай змазваюць паражоныя ўчасткі 2—3 разы на дзень.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...Мексіка правальваецца. Вядучы мексіканскі архітэктар Фелікс Кандэля падлічыў, што да 2000 году сталіца Мексікі праваліцца на 18 метраў. А вядомы эксперт, інжынер Ганзалес Флогэс лічыць, што ўзровень горада будзе зніжацца ў маруднейшым тэмпе: 15—30 см у год.

...яшчэ адна крывая вежа знаходзіцца ў паўночнай Чэхаславакіі, у Усці над Лабай, адхілена ад восі на 212 см. Цяпер яна адпаведна ўзмоцнена і з'яўляецца вялікай турыстычнай цікавасцю.

...найбольшая ў свеце тама будзе пабудавана на рацэ Індус у Пакістане: 148 метраў вышыні і 3 км даўжыні. Узнікне таксама возера паверхняй 250 квадратных кіламетраў. Дзякуючы яму будуць наводнены палі плошчай 12 тыс. квадратных кіламетраў.

## Чвэрць стагоддзя назад

Л. БЕЗЫМЕНСКІ

## СМЕРЦЬ ГІТЛЕРА

### СЛЕДСТВА НЕ ЗАКОНЧАНА

Пасля таго, як закончылася работа медыцынскай камісіі, завяршыўся адзін вельмі важны этап расследавання абставін смерці Гітлера, Гебельса і іншых. Вынікі медыцынскага абследавання далажылі ў Маскву.

Але яны не былі апублікаваны. Чаму? Зусім не таму, што дакладнасць экспертызы выклікала сумненні. Работу ваенна-медыцынскіх экспертаў прынялі да ведама. У апошніх чыслах мая яна была даложана вышэйшаму савецкаму дзяржаўнаму і ваеннаму кіраўніцтву. Медыцынскае следства палічылі завершаным, таму трупы былі канчаткова спалены, а попел развеян па ветру, як аб гэтым 3 ліпеня далажыў у Маскву генерал-лейтэнант А. Вадыс.

Ці з'яўлялася гэта нежаданне апублікаваць гэтыя даныя тым, што не хацелася змірыцца з фактам «выхаду» Гітлера ад справядлівай расплаты? Вядома, было шкада, што на лаўцы будучага трыбунала не акажацца ваеннага злачынцы нумар адзін. Як расказвае ў сваіх мемуарах Г. К. Жукаў, ён 2 мая паведаміў у час размовы з І. В. Сталіным аб тым, што, па словах Крэбса, Гітлер пакончыў самазабойствам. Г. К. Жукаў успамінае:

«І. В. Сталін адказаў:

— Дагуляўся, мярзотнік. Шкада, што не ўдалося ўзяць яго жывым».

Аднак тыя, хто вёў следства па гэтай справе, успамінаюць, што значную ролю адыгрывалі іншыя меркаванні. Папершае, было вырашана пакуль не публікаваць даных судова-медыцынскай экспертызы, а «прытрымаць» іх на той выпадак, калі з'явіцца які-небудзь прэтэндэнт на ролю Гітлера, які «цудоўна выратаваўся».

Па-другое, меркавалі, што для таго, каб паскорыць росшук усіх тых ваенных злачынцаў, якія схаваліся, будзе больш карысным затрымаць паведамленне аб знаходцы трупа Гітлера. У прыватнасці, Г. К. Жукаў заўважае: «Абставіны спачатку прымусілі мяне ўсумніцца ў правільнасці версіі аб самазабойстве Гітлера, тым больш, што нам не ўдалося выявіць і Бормана. Я тады падумаў: а ці не ўцёк Гітлер у самы апошні момант, калі ўжо не было надзеі на дапамогу Берліну звонку?»

На самай справе: не ўсе, далёка не ўсе злачынцы ў той момант былі злоўлены. Гімлер з фальшывымі дакументамі яшчэ хадзіў у размяшчэнні англійскіх войск, там жа хаваўся Рыбентроп. Нават з Берліна, акружанага савецкімі войскамі, гітлераўцам часам удавалася вырвацца. Сапраўды, у апошнія дні з бункера імперскай канцылярыі ўцёк не адзін чалавек. Лётчыцы Ганне Рэйч удалося ўзляцець з Шарлатэнбургскай шашы. Не кажучы ўжо пра сакратара Гітлера Марціна Бормана і начальніка гестапа Мюлера, лёс якіх дагэтуль невядомы, такія асобы, як імперскі фюрэр моладзі Аксман і намеснік Гебельса Наўман, удала абышлі ўсе сеткі загароды.

Нават у самых буйных дзеячоў трэцяга рэйха пры ўмове элементарнай маскіроўкі існавала магчымасць выбрацца і схавацца. Напрыклад, такі вядомы ў трэцім рэйху чалавек, як рэйхскамісар Усходняй Прусіі і гаўляйтэр Украіны Эрых Кох, хаваўся ў Заходняй Германіі да 1950 года! У гэтых умовах можна зразумець, што і на Патсдамскай канферэнцыі ў ліпені-жніўні 1945 года савецкія прадстаўнікі не спяшаліся з паведамленнямі пра лёс Гітлера. У інтарэсах усіх тых, хто прагнуў справядлівай адплаты, было стварэнне такой грамадскай атмасферы, якая дазволіла б хутчэйшым чынам знайсці ўсіх карычневых злачынцаў.

Нарэшце, было прад'яўлена патрабаванне: прадоўжыць следства і выключыць усялякую магчымасць памылкі і дэзінфармацыі. Для гэтага ўжо нельга было абмежавацца данымі, атрыманымі ў Берліне. Трэба было супаставіць іх з іншымі матэрыяламі. Улічваючы, што ў рукі савецкіх следчых органаў трапіла значная колькасць асоб, якія знаходзіліся ў канцы красавіка — пачатку мая ў бункеры імперскай канцылярыі, была пастаўлена задача атрымаць ад іх адказ на пытанне: ці мог Гітлер выбрацца з Берліна ў тыя дні?

Савецкія следчыя апрошвалі наступных асоб: у першую чаргу ад'ютанта Гітлера Ота Гюншэ, далей, асабістага пілота фюрэра Ганса Баура, начальніка асабістай аховы Гітлера Ратэнхубера, брыгадэнфюрэра СС Монке і іншых. Першы допыт гэтых асоб праводзіўся ў Берліне адразу пасля іх захопу ў палон. Вядома, ён насіў вельмі беглы характар. Акрамя таго, тады яшчэ не было вядома, што ў палон трапіў камердзінер Лінге — чалавек, які прысутнічаў пры самых апошніх мінутах жыцця Гітлера.

Гісторыя Лінге з'яўляецца даволі камічнай: ён змяшаўся з агульнай масай палонных і разлічваў застацца незаўважаным. Іменна з гэтай мэтай ён,

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВАЛЯ ФІЛІПЮК

Валя Філіпюк жыве ў Рыбалах. Працуе яна ў ПЗГС-е ў Бельску Падляшскім і аднačасова завочна вучыцца ў вышэйшай школе ў Варшаве. Заканчвае ўжо другі курс. Яна з'яўляецца таксама членам харавога калектыву бельскага аддзела БГКТ і, між іншым, выконвае там вельмі адказную функцыю — з'яўляецца канферанс'е. Выходзіць у яе гэта проста дасканала, бо ўмее гэта яна рабіць, ды і голас у яе звонкі і прыгожы. (мс)

## НЯМА СПАЛУЧЭННЯ

У Сакольскім павеце ёсць 20 грамадскіх рад нарадовых. Да ўсіх іх можна даехаць аўтобусам ПКС-у. Толькі да ГРН Гураны не ходзяць ПКС-ы. Ужо некалькі год робіцца там дарога, але ўсё гэта адбываецца так павольна, што яшчэ трэба не менш года чакаць, каб работы пры рамонце дарог былі закончаны. І жыхары Гуран, і навакольных вёсак, каб заехаць да Саколкі, да якой ім больш як 20 кіламетраў, мусяць 8 км ісці ў Крынкі. (сс)

## АКТЫВІСТКІ ПЦК

На ўсім свеце вядомы сімвал хуткай дапамогі, першай дапамогі — знак Чырвонага крыжа.

Польскі Чырвоны крыж (ПЦК) аб'ядноўвае ў сваіх радах больш як 5,5 мільёнаў чалавек — дарослых і школьнай моладзі.

У Беластоцкім ваяводстве колькасць членаў ПЦК дасягае 200 тыс. Сярод іх выдзяляецца ў сваёй дзейнасці шмат людзей, якія працуюць у вясковым асяроддзі. Такіх актывістаў ПЦК на Беласточчыне налічваецца 800. Асобай пахвалы заслугоўваюць: Барбара Баршчэўская з Элцкага павета, Хрысціна Апонік з Алецкага павета, Зося Муха з Пашкоўшчыны ў Бельскім павеце, Рэгіна Нікіфаровіч з вёскі Гало ў Сакольскім павеце і іншыя. (см)

## МОЛАДЗЬ З ЯЛОЎКІ

Моладзь з Ялоўкі (Беластоцкі павет) любіць спорт. Юнакі і дзяўчаты, згуртаваныя ў радах ЗМВ і БГКТ, прыходзяць у вольны час на школьны пляц, каб займацца спортам.

З моладдзю ахвотна працуе мясцовы настаўнік Яўгень Лешчук. Для таго, каб палепшыць умовы для спартыўных заняткаў, моладзь задумала арганізаваць забаву і за сабраныя грошы купіць сетку і мяч. У далейшым моладзь хоча прывесці ў парадак пляц пры клуба-кавярні і будаваць стадыён. Ахвотных узяцца за працу ёсць 25 чалавек. Найбольшым зацікаўленнем у юнакоў карыстаецца лёгкая атлетыка і «сяткоўка». Ялоўская моладзь ахвотна прымае ўдзел у розных спартыўных спаборніцтвах і розыгрышах з іншымі камандамі. *Я. Цялушэцкі*

## ГАРАДСКІ ДОМ

Іван Страмкоўскі з Ялава ў Дуброўскім павеце пабудаваў такі вялікі дом, якіх няма ў іх ваколіцы. Грамадная кухня і пакоі на доле, ды яшчэ на «гурцы» прастору столькі, што нават там дзвюм сем'ям хапіла б месца. Моладзь вёскі вельмі ўдзячна яму за тое, што ў найбольшым пакоі яго хаты дазваляе арганізоўваць танцы. (хх)

## ДЫЯЛЕКТЫ ВАКОЛІЦ НАРАЎКІ

У Люблінскім універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай вучыцца шмат моладзі з Беласточчыны, у тым ліку і выпускнікі беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. Некаторыя з іх вучацца на рускай філалогіі. І яны разам з іншымі студэнтамі-русіцыстамі ў жніўні ў раёне Нараўкі будуць запісваць тутэйшыя дыялекты. (мх)




*Дарагое Сэрцайка!*

Ужо год часу, як я пакахала Толіка. Толік гаварыў мне, што таксама мяне кахае, што са мною ажэніцца. Пяць месяцаў таму назад я зацяжарыла. Даведаліся аб гэтым мае бацькі, бо ўжо ж гэтага і не скрыеш. Бяды было нямала, аднак пагадзіліся з тым і нават сказалі, што ў выпадку, калі б Толік не захацеў ажаніцца, памогуць мне выхаваць дзіця (я адна ў бацькоў). Аднак Толік надалей да мяне прыходзіць, толькі бяда ў тым, што яго маці не згаджаецца, каб Толік жаніўся са мною. Гавораць, што ўсяляк мяне абзывае і кажа, што ў ніякім выпадку не дапусціць да жаніцьбы. Аднаго разу вечарам паклікала яна мяне дахаты і пачала намаўляць мяне, каб я згадзілася пайсці да лекара і пазбыцца дзіцяці, а тады Толік са мною ажэніцца. Тлумачыць гэта тым, што, калі так хутка па шлюбе народзіцца дзіця, людзі будуць смяяцца, не толькі з нас, але і з яе. Толік таксама згаджаецца з ёю, хоць апошняе слова пакідае мне. Не ведаю, што рабіць. Баюся аб гэтым сказаць сваім бацькам. А маці Толіка чакае майго адказу, хуткага адказу. Парай.

*Вера з Гайнаўшчыны*

Вера! Нічога дзіўнага, што ты аб гэтым баішся сказаць сваім бацькам. Аднак неадкладна трэба паведаміць ім аб гэтай намове, каб Толікавай маці даць апошні адказ. Толькі не такі, якога яна чакае. Гэта ж справа жыцця і смерці не толькі дзіцяці, але і твайго. У лекара можна пазбыцца цяжарнасці толькі да 3-х месяцаў цяжарнасці, а ты ўжо ж маеш пяць месяцаў. Аб небяспецы ты павінна сказаць Толіку, які, як ты сама пішаш, чакае твайго апошняга слова і не адракаецца ад цябе, і ад вашага дзіцяці. Няма ўжо чаго вам чакаць і трэба хутчэй узяць шлюб. Калі ж і надалей Толікава маці не згодзіцца, дык можна ж гэта зрабіць і без яе згоды. Ты ж у бацькоў адна, і Толік можа да ўладжання гэтых спраў жыць у тваіх бацькоў. А потым, напэўна, усё ўладкуецца, як заўсёды бывае. *Сэрцайка*

## КРЫНАЧКА

У адлегласці некалькіх кіламетраў ад Гайнаўкі, у Белавежскай пушчы, кожны год на Сёмуху ў Крыначцы збіраецца многа людзей. У гэтыя дні ў царкоўцы сярод пушчы служаць, і сюды прыязджае заўсёды большая колькасць святароў. У першы дзень урачыстасцей прыязджаюць людзі з «Літвы» — так называюць ваколіцы, што каля Нараўкі і Семяноўкі. На другі дзень прыязджаюць людзі з «палёў» — гэта значыць, з раёна Навасад, Наваберазова, Дубіч Царкоўных. Урачыстасці ў Крыначцы зваблівающь многа гандляроў, якія, раскінуўшы свае страганы, прадаюць розныя ласункі і добра зарабляюць.

У Крыначцы непадалёк ад царквы пад спецыяльным купалам знаходзіцца маленькая крыніца, на яе паложана цэмбравіна і зроблены калодзеж. Да сёння дажыла легенда, што гэтая вада мае лячэбныя якасці. І таму тут арганізавана вядром выцягваюць ваду і кубкам яе наліваюць у бутэлькі або сваімі вёдрамі забіраюць, а пасля яе п'юць і ёю мыюцца. Хустачка, якой выціраюцца, застаецца тут на месцы. Яе рассцілаюць на галінках дрэў або на агароджы — гэта значыць, каб гора, або хвароба засталася тут разам з гэтай хустачкай. І так кожны год пакідаюць тут людзі сотні, а мо і тысячы гэтых хустачак. (мм)

## СТАРШЫНЯ І ЯГО ЖОНКА

Старшыня грамадскай рады нарадовай у Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) Рыгор Палецкі добра спраўляецца са сваімі абавязкамі. З'яўляецца ён таксама добрым гаспадаром. На яго вялікім панадворку і хата, і гумно, і хлявы добра размешчаны, не знаходзяцца ў адным цягу, а стаяць паасобку. Садзік таксама прыгожы, а ў ім стаіць асобнае памяшканне, у якім знаходзіцца парнік ды пліта-правізорка, каб у цёплы час можна было там наварыць есці і для свае сям'і і напарыць бульбы свінням. Палявыя работы ў Рыгора Палецкага заўсёды закончаны ў час. Праўда, найбольш прыходзіцца працаваць жонцы, якая і ў хаце ўсё мусіць дагледзець і дабытак накарміць, ды яшчэ ў полі ўсё зрабіць. Але што тут зробіш! Муж мусіць ехаць на работу ў ГРН-е. Добра, што набыў матацыкл, таму што ад Сушчы да Юшкавага Груда амаль 6 кіламетраў. Сын вучыцца ў Міхалове, а стары цесць два гады таму назад зусім аслеп, так што жонка старшыні работы мае мноства. (мх)

## НЕ ХАПАЕ ДЗЯЦЕЙ

У вёсцы Сакалда (Сакольскі павет) 10 год таму назад пабудавана прыгожая школа і прыгожы настаўніцкі дом. Але ў гэтай васьмікласнай школе з кожным годам змяншаецца колькасць вучняў. З Сакалды і маленькіх вёсачак навокал Сакалды не назбіраецца цяпер столькі дзяцей, каб можна было ўтрымаць школу ў наступным годзе. Ёсць цяпер толькі 16 дзяцей на ўсе 8 класаў. Асветныя ўлады вырашылі ў наступным школьным годзе закрыць школу, а дзеці з Сакалды будуць хадзіць у школу ў Лазнях, да якой з Сакалды чуць не 5 км. (сс)

## УРАЧЫСТЫ ВЕЧАР

У школе ў Паўночным Востраве (кіраўнік Мар'ян Філановіч) восьмы клас закончыла 11 асоб. 10 з іх ідуць вучыцца ў тэхнікумы і прафесіянальныя школы. 13-га чэрвеня для выпускнікоў школы быў арганізаваны ўрачысты вечар, у якім, між іншым, прыняў удзел першы сакратар павятовага камітэта ПАРП у Саколцы — Іван Дзенісюк. У сваёй кароткай прамове склаў ён сардэчныя пажаданні выпускнікам у паспяховым зданні экзаменаў у тэхнікумы і прафесіянальныя школы. (мх)

## КАСЬБА



Усё часцей у час касьбы нашы сяляне карыстаюцца касілкамі. Фота Я. Цялушэцкі

## ЗА МІНЕРАЛЬНЫЯ ЎГНАЕННІ

Належнае выкарыстанне мінеральных угнаенняў гарантуе высокія ўраджаі сельскагаспадарчых культур. Уведзены нашымі ўладамі абавязковы закуп мінеральных угнаенняў не выконваецца ў 100% паасобнымі гаспадарамі. Трэба добра папрацаваць актывістам ГРН-аў, каб прыдзеленая колькасць закупу для кожнага гаспадара была поўнасцю выкуплена. У Гайнаўскім павеце дабіліся гэтага толькі дзве грамады: Дубічы Царкоўныя і Палічна. Вось за дасягненні ў гэтай галіне старшыні ўспамянутых двух ГРН-аў Мікалай Чыквін і Юры Леўчук атрымалі грашовыя ўзнагароды. (мх)

---

калі яго вялі па вуліцах Берліна, перадаў нейкай жанчыне, што стаяла на вуліцы, гадзіннік з імянным надпісам Гітлера. Але Лінге пралічыўся: жанчына, якая атрымала такі нечаканы падарунак, паведаміла пра гэта ў савецкую ваенную камендатуру. Быў дадзен загад неадкладна адшукаць Гейнца Лінге сярод многіх тысяч узятых у палон у Берліне...

Пачаліся падрабязныя апытанні. Найбольшую ўвагу следчыя звярталі на два моманты. Першы: у якой меры была ў Гітлера тэарэтычная або практычная магчымасць выбрацца з Берліна? Другі: наколькі дакладныя звесткі аб самазабойстве Гітлера, а калі такое мела месца, то як яно адбылося. Пад гэтым пунктам гледжання вяліся допыты, пратаколы якіх састаўляюць многія следчыя тамы. Вынік допытаў зводзіўся да наступнага:

Першае: Гітлер мог паспрабаваць вылецець з Берліна аж да 28 красавіка.

Другое: большасць жыхароў бункера ўсяляк угаворвала Гітлера зрабіць гэта.

Трэцяе: Гітлер не выканаў гэтых парад.

Карціна малявалася прыкладна так: амаль усім у свіце фюрэра было ясна, што калі Гітлер застанецца ў Берліне — а тады павінна застацца і світа, — то гібелі не мінаваць. Разыгрываліся трагікамічныя сцэны: лейб-урач Марэль плакаў, просячы адпусціць яго з Берліна ў «альпійскую крэпасць». Пілот Баур нават згаджаўся даставіць фюрэра ў Манчжоуго! Аднак працэс дэмаралізацыі і распаду асобы ў Гітлера зайшоў так далёка, што ён не мог і думаць пра тое, каб пакінуць бункер. Пасля 20 красавіка ён ужо не паказваўся днём, а выбухі савецкіх снарадаў прымушалі яго ўздрыгваць.

Рэжым, створаны на базе імперыялістычнай дыктатуры, мае адну асаблівасць: ён уцягвае ў бездань не толькі тых, супраць каго накіраван, але і тых, хто яго стварае. Логіка знішчэння не ведае межаў, і яна прывязала Адольфа Гітлера, Іозефа Гебельса і многіх іншых да калясніцы, што коціцца ў бездань. У гэтым, бадай, было больш паслядоўнасці, чым у спробах Герынга і Гімлера саскочыць з калясніцы і ў апошні момант прапанаваць свае — нікому ўжо не патрэбныя! — паслугі заходнім дзяржавам. Але канчатковы вынік быў адзіным — Гітлер, што атруціўся ў Берліне, Гімлер, які атруціўся каля Люнебурга, Герынг, які атруціўся ў Нюрнбергу...

Вывад маскоўскага следства гаварыў: Гітлер мог паспрабаваць пакінуць Берлін, але не зрабіў гэтага. Тады заставалася высветліць апошняе пытанне: якім жа іменна чынам ён зрабіў самазабойства?

*(Працяг будзе)*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Po wielkiej burzy'' (franc.), 6—7. ,,Królewski błąd'' (czeski), 8—9. ,,2 mamy i 2 ojców'' (jugosłowiański), 10—11.

**Дубіны**

,,Dzika Elżbieta'' (czeski), ,,Tylko umarły odpowie'' (polski, 11—12.

**Нараўка**

,,Adolf'' (NRD), ,,Wniebowstąpienie'' (polski), 8—12.

**Нарва**

,,Dziewczyna'' (węgierski), ,,Miłość i jazz'' (szwedzki), 8—12.

**Чыжы**

,,Koniec agenta W4C '' (jugosłowiański), ,,Szósty lipca'' (radziecki), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Biały pokój'' (bułg.), ,,Człowiek z M-3'' (polski), 8—12.

**Арэшкава.**

,,Między wrześniem a majem'' (polski), ,,Stawka większa niż życie'' (polski), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

,,Morderca na zawołanie'' (NRD), ,,Zwariowałeś Toni'' (czeski), 8—12.

**Райск**

,,Milion lat przed naszą erą'' (ang.), ,,Tylko jedno życie'' (radziecki), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

,,Ziemia aniołów'' (węgierski), 7—8. ,,Śpiewa Ywes Montand'' (radziecki), 9—10. ,,Paragon gola'' (polski), 11—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Skowronek'' (węgierski), 7—8. ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 9—10. ,,Lew pręży się do skoku'' (węgierski), 11—12.

**Янаў**

,,Nie wspominać o przyczynie śmierci'' (jugosł.), 8—12.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

,,Sklep przy głównej ulicy'' (czeski), 7—8. ,,Tajemniczy mnich'' (radz.), 9—10. ,,Paragon gola'' (polski), 11—12.

**Мельнік**

,,Szepczące ściany'' (ang.), 7—8. ,,Sami swoi'' (polski), 9—10. ,,Ostatni watażka'' (bułg.), 11—12.

**Мілейчыцы**

,,Wierność'' (radz.), 7—8. ,,Ostatni watażka'' (bułg.), 9—10. ,,Grzech Azizy'' (ZRA), 11—12.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7100 W—3

# • МАРА •

Спачатку была мара. Вось якая..

Іду я па вуліцы, і раптам — пажар. Агонь. Шум. Натоўп. Крычаць: «Гарыць!» — пальцамі паказваюць на акно.

Вось на тое акно — пяты паверх, трэцяе злева. А ў акне твар. Ну, я без хістання — наверх па лесвіцы. А лесвіца пада мною ўжо гарыць. Надзея прыдае мне сілы. Выламліваю дзверы. Ёсць!

Ён ляжыць каля акна. Ледзь дыхае. Я хапаю яго ў ахапку — і ўніз па лесвіцы.

Крыкі:

— Герой! Герой!..

А я, з валасамі, прапахлымі дымам, у тлеючым пінжаку, вынощу на руках начальніка жыллёвага аддзела. Ён расплюшчвае вочы і пытае:

— Чым я магу вам аддзякаваць?

— Глупства, — гавару я, — не варта ўдзячнасці. Але ён настойвае.

Тады я далікатна намякаю: маўляў, жыллёвыя ўмовы не вельмі... Ён паціскае мне руку, і мы доўга сардэчна глядзім адзін другому ў вочы.

Аднак мара марай, а вось якая рэчаіснасць.

Дом, дзе жыве начальнік жыллёвага аддзела, пакуль стаіць і стаіць, а пажару не відаць. Насупраць жа гэтага дома, дарэчы, школа.

« Наце вам, — гавару, — дзетачкі, — па два злотых на запалачкі. Купіце сабе, дзетачкі, запалачкі. Пасвавольцеся каля вось таго дома.

Кожны тыдзень даю ім па два злотых. А дом стаіць і стаіць. Яны за мае два злотых сабе лёды купляюць. Што за моладзь цяпер пайшла! А на запалачных этыкетках пішуць: «Дзіця + запалкі = пажар».

Між тым я ўсё хаджу па гэтай вуліцы, прагульваюся. Чакаю...

І вось аднойчы я іду і чую — пажарная сірэна! Пажар!

Я па лесвіцы наверх. Пяты паверх. Званю. Начальнік жыллёвага аддзела адчыняе. Я хапаю яго на рукі. Але тут раптам з'яўляецца нейкі тып. Агідная морда! Адпіхае мяне і вырывае начальніка. Начальнік крычыць, як відаць, хоча, каб яго нёс я. Тады я адпіхаю нахабніка, і начальнік ужо ў мяне на руках. Але тып не здаецца, упарты чорт! Падстаўляе мне ножку і здабывае начальніка. Я вырываю назад, а ён зноў вырывае яго ў мяне. У выніку, відома, мы начальніка крыху пашкодзілі. А тым часам падаспелі пажарнікі. Аказваецца, проста сажа ў коміне загарэлася..

Вось што атрымліваецца, калі мары ў розных людзей супадаюць.

*Ёанна Вілінская*



# НІЎКА



*— Эй, рыбакі! Вудачкі пакінулі!*

## Галавαломка

Знайдзіце такі лік, які павялічваецца ўдвая пры перастаноўцы апошняй цыфры на першае месца.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ДЗЕ ТАТА?

— А дзе твой тата?
— Сабакам сена косіць.
— А чаму не карове?
— На карову маці старaецца.

### ХТО

Два чалавекі, якія сустрэліся выпадкова, размаўляюць пра тое, пра сёе, філасофствуюць.

— Я прытрымліваюся прынцыпу, што лепей даваць, чым атрымліваць самому, — кажа адзін.

— Вы, мусіць, філантроп? — пытае другі.

— Не, баксёр!

### ВЕЛІЧЫНЯ

Гудзела Муха:
— Я Велічыня!
З мяне нярэдка робяць і слана.

*А. Ліхач*

### У ФРАНЦЫІ

У курортным гарадку размаўляюць прыезджы і парцье гасцініцы.

— Мне патрэбен двухмесны нумар!

— Вельмі шкада, але сезон у поўным разгары, і атэль перапоўнены.

— А калі б сюды прыехаў прэзідэнт Францыі або каралева Нідэрландаў, вы знайшлі б для іх месцы?

— Вядома!

— Магу паведаміць вам, што яны не прыедуць. Можаце перадаць месцы мне!



*— І куды яны спяшаюцца?*
*— Вядома, на футбол...*

*СІЛА КАХАННЯ*



*— Ало! Мы адправіліся 5 мінут назад.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Анелі Навіцкай з вёскі Скупава, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню:

## ENE DUE RABE

**Słowa: Agnieszka Osiecka**
**Muzyka: Andrzej Kurylewicz**

parlando:
Raz była panna i był pan,
i stał przed nimi wina dzban,
lecz pan przy pannie nienagannie
zachowywał się nad stan.
I choć nie o to pannie szło,
pan mówił pannie tylko to:

Ene due rabe, połknął bocian żabę,
ene due rabe, rapete, papete knot!
Bocianięta na to:
Tato, ucztę miałeś przebogatą,
dla nas także, tato, złap
parę ładnych dużych żab!

Ene due rabe, goni bocian żabę,
ene due rabe, rapete, papete knot!
A żabięta szur w szuwary,
a ten bociek bardzo stary,
ledwo w nim się dusza tli,
a żabięta „hi hi hi".

Ene due rabe, szukaj, boćku, żaby,
ene due rabe, rapete, papete, knot!
Prędzej znajdziesz koci ogon,
coca-colę, togę z Togo,
możesz chytrym być jak lotr,
my schowamy się za płot.
Ene due rabe, szukaj, boćku, żaby,
ene due rabe, rapete, papete, knot!

### ПА ДРУГОЙ ЧАРЦЫ

— Браточак, вып'ем яшчэ па чарцы. Хто ведае, калі зноў убачымся..

— Вып'ем, вып'ем, бо я ўжо цябе не бачу.

### ШТО НОВАГА

Двое сустракаюцца на вуліцы.

— Што новага? — пытае адзін.

— Ты ведаеш, мне здрадзіла жонка.

— Ха! Я ж пытаю, што новага?

### АД КАГО

Маладыя хлопцы спыталіся ў старога чалавека:

— Ад каго вы вучыліся выхаванню?

— Ад нявыхаваных, — адказаў той. — Я заўсёды стараўся не рабіць тое, што рабілі яны.

### У РЭСТАРАНЕ

Афіцыянт, звяртаючыся да наведвальніка, які з нецярплівасцю чакаў, калі ў яго возьмуць заказ: «Я вельмі спачуваю, што вам давялося так доўга чакаць, але я зараз жа прынясу вам яшчэ адну попельніцу».

### ШКАДА

Адна маладая парыжанка пытае шафёра таксі:

— Вы свабодны?

— На жаль, не — учора толькі ажаніўся, — са шкадаваннем адказвае шафёр.

### ПАСЛУХАЙСЯ

— Адна багатая ўдава, старая і непрыгожая, закахана ў мяне, а я кахаю адну бедную дзяўчынку... Проста не ведаю, што рабіць..

— А ты паслухайся свайго сэрца: хто падабаецца яму?

— Сэрцу то падабаецца бедная дзяўчынка...

— Вось на ёй і жаніся. А мне дай адрас той багатай удавы..

### ШТО Б ДАЛА

Дужа прыгожая, але стараватая жанчына пытаецца ў дужа маладой, але непрыгожай дзяўчыны:

— Што б ты дала за маю прыгажосць?

— Тое, што вы далі б за мае гады.

### АФАРЫЗМЫ

■ Чым больш вольнага часу, тым менш грошай у кішэні — такая думка не пакідае чалавека, які толькі што вярнуўся з адпачынку.

■ Старасць не страшная таму, хто памірае маладым.

■ Час ад часу трэба добра праветрываць і атмасферу ўзаемнага даверу.

■ Танны аптымізм... А як багата жывецца сяму-таму за яго кошт!

■ На думку пеўня, усе зерні — рацыянальныя.



*Водпуск у марах муляра.*

# Курёзы

### НАКАЎТ КЕНГУРУ

Вось што здарылася аднойчы на такійскіх вуліцах. Парушальнікам руху быў.. кенгуру. Паліцэйскія на матацыклах праследавалі «парушальніка» і нарэшце загналі ў двор аднаго з дамоў. І тут раззлаваная жывёліна зрабіла раптам баксёрскую стойку і накаўціравала некалькіх ахоўнікаў парадку. Толькі дрэсіроўшчыкам удалося ўціхамірыць «баксёра». Высветлілася, што кенгуру і сапраўды выступаў у цырку ў ролі баксёра.

### ПАТЭЛЬНЯ-ГІГАНТ

У маленькім італьянскім гарадку Камолы, размешчаным на лігурыйскім узбярэжжы, штогод адбываецца свята рыбакоў. Усё насельніцтва ласуецца рыбаю, засмажанай на адной вялікай патэльні.

Адзін год зробленая спецыяльная для свята патэльня мела шэсць метраў у дыяметры. На гэтай патэльні было засмажана дзве тоны рыбы. Шэсцьсот літраў алею і сто дваццаць кілаграмаў мукі пайшло на прыгатаванне пачастунку.

### ДЗЕЙСНАЯ ПАГРОЗА

У бельгійскім гарадку Эвел гастраліраваў цырк пана Дэпе. Мясцовыя ўлады спаганяюць з Дэпе падатак, які звычайна плацяць усе прадпрыймальнікі. Дэпе рашуча адмовіўся плаціць і пачаў пагражаць, што ліквідуе свой цырк і тут жа, у гэтым горадзе, распусціць усіх сваіх артыстаў.

Улады адразу адмянілі сваё патрабаванне. Дэпе быў уладальнікам.. былыянага цырка.




**Любіў самакрытыку: усіх крытыкаваў сам.**